© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 32 (1630) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 9 ЖНІЎНЯ 1987 г. ЦАНА 12 зл.



## ЛЯ ПОМНІКА Ў ВІТАВЕ

У нядзелю, 19 ліпеня г.г., напярэдадні Свята Адраджэння, у пушчанскай вёсцы Вітава, гміна Дубічы-Царкоўныя, адбылася вялікая ўрачыстасць.

Пачалася яна ля помніка тром замучаным у 1945 годзе бандай „Бурага“ ППРаўцам: Цімафею Хмелю, ён быў сакратаром ячэйкі ППР у Вітаве, Карнілу Васілюку — солтысу Вітава, і маладому хлопцу з Доўгага Брода — Васілю Германюку, якому не было яшчэ і 20 гадоў.

З успамінамі пра загінуўшых таварышаў ля новага помніка выступіў сакратар вітаўскай партарганізацыі Уладзімір Іванюк. Дэлегацыі партарганізацый з гміны ўсклалі вянкі і кветкі. Потым у святліцы ў Вітаве адбылася ўрачыстая сесія Гміннай рады нарадовай і Рады гміннай ПРОН у Дубічах-Царкоўных, на якой з дакладам выступіў сакратар Гміннага камітэта ПАРП Васіль Сегень.

Помнік загінуўшым першым тутэйшым членам ППР пастаўлены са складчын насельніцтва гміны. Ён стаіць у канцы Вітава, дзе і да гэтага часу стаяў скромны абеліск, пастаўлены людзьмі многа год таму назад. На франтоне новага помніка-пліты вялікія літары „ППР“, а збоку — прозвішчы загінуўшых.

Вакол шуміць па-беларуску вялікая вечная Белавежская пушча. (вв)

Фота Я. Чэрнякевіч

## АБ КУЛЬТУРЫ

## З КАЗІМІРАМ ДЭРКОЎСКІМ, ДЫРЭКТАРАМ ВДК У БЕЛАСТОКУ

**„Ніва“:** З 1 верасня г.г. у Ваяводскім доме культуры будзе спецыяльны музычны інструктар для працы з беларускімі калектывамі. Гэта добрая вестка

**К. Дэркоўскі:** Мы з дзеячамі БГКТ даўно гаварылі аб гэтым і часта. І факт — будзе чалавек, і да яго ў галіне беларускай музыкі і фальклору можна будзе звяртацца. Сцяпан Копа — выпрабаваны ў гэтай працы чалавек, салідны, мае ўжо дасягненні і традыцыі ў працы. Я лічу, што буду мець добрага інструктара і маю поўную свядомасць факту, што музычны інструктар, які ведае беларускі фальклор, мову — гэта вялікая сіла ўздзеяння фірмы, якую прадстаўляю, на асяроддзе. Для мяне як дырэктара ВДК гэта чыстая карысць, бо я буду ведаць, як працуюць калектывы, у якім напрамку ідуць.

**„Н.“:** Вы вядомы сярод беларусаў як чалавек, прыхільны беларускай культуры, спрыяльны яе шырокаму развіццю.

**К.Д.:** Я ад самага пачатку маёй тут працы ўспрыняў культурную спецыфіку Беласточчыны такой, якая яна ёсць. А яна тут надта разнародная. І гэта наша багацце. Яго трэба распаўсюджваць. Ваяводскі дом культуры для таго і ёсць, каб служыць дапамогай культурным асяродкам і культурным ініцыятывам ў рэгіёне. Такая праграма памагла мне выйграць выбары на дырэктара ВДК у верасні 1981 г. Я — першы дырэктар па выбару. Маю праграму аб узаемных сувязях ВДК з тэрэновымі асяродкамі культуры прынялі працаўнікі культуры ваяводства на сваім сейміку ў тыя бурныя дні. І я хачу паўтарыць тое, што сказаў, бадай, у Мілейчычах некалі, адказваючы на пастаўленае там пытанне: Якую культуру мы павінны распаўсюджваць? Адказ мой такі: такую, якая вынікае з карэнняў гэтай зямлі. Не будзем жа іншай прышчапляць, напрыклад, французскай, бо яе тут няма. А цяпер я маю пытанне: аб чым гаварылі беларускія дзеячы на сустрэчы з ваяводам, якая нядаўна адбылася?

**„Н.“:** Не ведаю, не была я, мяне не запрасілі.

К.Д.: І я не быў, а хачу і павінен, бадай, ведаць, што і як гаварылася. У апублікаванай інфармацыі аб сустрэчы надта ж аптымістычна сказана, што добра ўсё з калектывамі, а я ведаю, што гэта не так — ёсць многа цяжкасцяў і недахопаў.

**„Н.“:** Закранаем тут пытанне аб супрацоўніцтве ГП БГКТ з ВДКам, аб кантактах і ўзаемным абмене інфармацыяй.

**К. Д.:** Так, як гэта цяпер маецца, то робіцца як бы па выкліку: Таварыства рыхтуе імпрэзу — тады звоняць. А мы хочам штодзённага пастаяннага абмену інфармацыяй і супрацоўніцтва з вамі. І адносна гэтага хачу сказаць: надта важна, хто ў ГП адказвае за культурную працу. Успамінаю час, калі была ў ГП Валя Ласкевіч. Я быў тады ў курсе спраў і ведаў усё, мог планаваць, памагаць. Ад дынамікі, ініцыятыўнасці і ўпартасці культурнага працаўніка ГП БГКТ залежыць вельмі многа. Ён павінен ведаць, чаго хоча і цвёрда ісці да гэтага. Здаецца мне, што такі чалавек там у Таварыстве вельмі патрэбны. Не заўсёды ж усё трэба зараз з шэфам ладзіць. Важна мець кантакты і з кіраўнікамі аддзелаў ВДК. Няхай яны ведаюць усе бягучыя справы і патрэбы беларусаў. Кантактавацца трэба непасрэдна, а не толькі з нейкай нагоды і афіцыйна.

**„Н.“:** Як ацэньваеце цяперашнія вашы кантакты з кіраўніцтвам БГКТ?



**К.Д.:** У мяне добрыя кантакты з Янам Зенюком і вельмі службовыя з Віталіем Лубам. Але ўсё яшчэ, на шчасце, добрым духам застаецца Валянціна Ласкевіч. Гэта ж яна заініцыявала і раскруціла вялікія культурныя імпрэзы, як „Ноч Купалы“ ці беларускія фэсты і канцэрты ў амфітэатры ў Беластоку.

**„Н.“:** Маем музычнага інструктара ВДК, ці можам гаварыць аб такім інструктары тэатральным?

**К.Д.:** Можна гаварыць, але я не маю чалавека, трэба шукаць. Трэба, каб і гэта было зроблена.

**„Н.“:** У нашых калектывах паяўляюцца галасы, патрабуючыя народных танцаў. „Дубіны“ нават самі прабуюць развязаць гэты вузел.

**К.Д.:** Справа танца — то Вяслаў Дамброўскі. Выдатны знаўца народных танцаў. Думаю, што ён змог бы памагчы і ў пастаноўцы беларускіх танцаў, трэба з ім гаварыць. Затым я магу зрабіць семінар па танцах. Працуе пры ВДК студыя для інструктараў танца, у рамках гэтай студыі адбудуцца „танцавальныя варштаты“. Я магу запрасіць на гэтыя варштаты інструктараў, якія развучваюць рэгіянальныя танцы. Можна думаць і далей. І гэта ўжо справа Таварыства, каб яно ўжо цяпер на будучы год падало кандыдатуры 15-20 чалавек, якія маглі б стацца інструктарамі беларускага народнага танца. Я нават эмагу ў такім выпадку звярнуцца ў Гродна, адтуль прыедзе спецыяліст, навучыць народным беларускім танцам. Толькі мусіць быць адрасат, для каго гэта будзе рабіцца.

**„Н.“:** Гэта ўсё цудоўна, але хто дасць грошы?

**К.Д.:** Я дам грошы. Я ахвотна гэта зраблю, толькі мушу

(Працяг на стар. 2)

**УВАГА! Праз тыдзень — расклад аўтобусаў з Бельска.**

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020




## ДАРАГІЯ СУРОДЗІЧЫ!

Я ўжо даўно збіраўся выказаць Вам сваё задавальненне і пахвалу за змест і працу „Нівы", але неяк працягнуўся гэты час. Сёння якраз знайшлася нагода пры адказе на „Апытальнік", які паявіўся ў „Ніве" № 21 за 1987 г. І хоць можна было б выказаць адным словам, што ўсё мне ў „Ніве" падабаецца без ніякай крытыкі ці паправак — напішу крыху больш, каб Вас заахвоціць яшчэ больш любіць сваю дастойную працу, якую выконваеце для ўсіх нас на ўсім свеце, не толькі ў сваёй Беласточчыне. Вам гэта вядома, што нас лучыць з Вамі праз голас паважанай „Нівы". І мы шмат у чым выказалі сваю любоў да нашай супольнай справы праз роднае слова „Нівы". І не толькі падпіскай яе, але і шчырай ахвярнасцю, каб падтрымаць пабудову царквы-сабору ў Беластоку ды Беларускага музея ў Гайнаўцы. А колькі з нас мае прыватныя сувязі з паасобнымі суродзічамі па ўсёй Польшчы: студэнтамі, святарамі, дзеячамі БГКТ! Я асабіста амаль кожны месяц высылаю камусьці ліст і хацелася б яшчэ каму паслаць у тым і ў „Ніву", ці якому аўтару артыкулаў у ёй, якія пішуць на важныя тэмы аб мінулым жыцці нашага народа ці сучаснасці.

Мы цешымся, што нашыя суродзічы ў малой Беласточчыне маюць больш культурнай свабоды, як мелі мы да вайны 1939 г. ва ўсёй вялікай Заходняй Беларусі. Проста дзіву дзівуемся ў перамене часу і людзей! А гэтак сталася, што беларуская мова цяпер паважаецца не толькі ў БССР, але і ў вас, у Беласточчыне, ды мае вольнасць ва ўсёй Польшчы. Дык што ж можна больш чаго сказаць, апрача радасці, што хоць не ўсе мы жывём на сваёй Бацькаўшчыне, але з ёю без перашкодаў маем сувязь, ці гэта праз „Голас Радзімы" з Менска ці „Ніву" з Беластока. Відаць цяпер людзі больш зрабіліся талерантнымі.

І так хацелася б больш чаго сказаць, і не толькі на пытанні „Анкеты". А на пытанне ў ёй „Якія артыкулы вам найбольш падабаюцца" дык назаву іх аўтараў: М. Гайдука, С. Яновіча, А. Барскага, вершы Шведа, артыкулы В. Рудчыка і рысункі У. Петрука, таксама матэрыялы для дзяцей у „Зорцы".

Ды яшчэ скажу раз: усе ды ўсё мне падабаецца, што друкуецца ў „Ніве" і таму хай друкуецца на радасць нам і славу Вам, яшчэ праз 100 гадоў!

З пашанай да Вас

**Аляксандр Асіпавіч,**
75 гадоў, ЗША

## НЕ, НЕ ЎСЁ

Трохі парушыў маю амбіцыю рэпартаж А. Барскага „Аб смеху, страху і плачы" ў рубрыцы „На мяжы" ў дваццаць першай

**(Працяг на стар. 4)**

## СУСТРЭЧА Ў МІНІСТЭРСТВЕ КУЛЬТУРЫ І МАСТАЦТВА

Па ініцыятыве БГКТ 20 ліпеня 1987 года адбылася сустрэча кіраўніцтва Галоўнага праўлення з віцэ-міністрам культуры і мастацтва Казімежам Цлапкам. Сустрэча мела дзелавы характар. Удзельнічалі ў ёй дырэктары дэпартаментаў: дамоў культуры і грамадска-культурнай дзейнасці — Януш Навіцкі; кніжкі і бібліятэк — Станіслаў Пясцік і эканамічнага — Казімеж Вашчук, З боку ГП ГП БГКТ у сустрэчы прынялі ўдзел: Аляксандр Баршчэўскі, Янка Зенюк, Канстанцін Майсеня і Віталій Луба. Прадстаўнікі ГП паінфармавалі аб галоўных напрамках дзейнасці і прадставілі праблемы, якіх вырашэнне патрабуе дапамогі з боку Міністэрства. Былі абгрунтаваны патрэбы беларускага аматарскага руху, выдавецкай дзейнасці, пабудовы музея ў Гайнаўцы і імпарту беларускіх кніг з БССР.

Сустрэча праходзіла ў сардэчнай, прыхільнай атмасферы. Міністр К. Цлапка і дырэктары дэпартаментаў канкрэтна адняcліся да прапаноў кіраўніцтва ГП. Міністэрства будзе аказваць дапамогу Таварыству ў галіне аматарскага руху і выдавецкай дзейнасці. **(л)**

**(Працяг са стар. 1)**

## АБ КУЛЬТУРЫ

мець партнёра для канкрэтных размоў. Я мушу ведаць, што ў 1988 г. Галоўнае праўленне БГКТ хоча тое і тое, патрабуе такой і такой дапамогі, як мерытарычнай, так і фінансавай. Мы ніколі не адмовіліся. Не было такога выпадку. Толькі я хачу і мушу ведаць, і планаваць.

Хачу вярнуцца яшчэ да адной ідэі. Напрыклад, украінцы робяць вялікі агляд песні ў Сопаце. Нарадзілася некалі ў кругу дзеячоў Беларускага таварыства ідэя, якая і ў нас пастаянна пульсуе. Ёсць у Беластоку вялікі амфітэатр. Мог бы ён стацца месцам цэнтральнай імпрэзы з удзелам калектываў усіх нацыянальных меншасцяў у Польшчы. Сустракаліся б тут беларусы, украінцы, літоўцы, грэкі, чэхі... То была б імпануючая імпрэза! Думаю, нам пад сілу арганізаваць такую імпрэзу ў Беластоку. Я за тое. Мы ў ВДК знаходзімся якраз у моманце рыхтавання плана на будучы год. Трэба думаць аб зматэрыялізаванні гэтай праблемы. Ад канцэпцыі да дзейнасці!

**„Н.":** І яшчэ аб конкурсе беларускай песні.

**К.Д.:** Тут такая ўвага. Фінал конкурсу беларускай песні адбываецца ў лютым у закрытай зале. Ці не выйсці з гэтай песняй у амфітэатр, калі такі фэст, які вось адбыўся, прыцягвае столькі людзей? Ці няма адважных, каб змяніць тэрмін?! У культуры патрэбны людзі адважныя, бо без рызыкі то будзем рэалізаваць толькі ўказанні, а грамадства ўсё больш робіцца пераборлівым, і гэта трэба ўлічыць. Добра зробленая пленэрная імпрэза заўсёды прыцягне гледача. Такія імпрэзы нам патрэбны і мы можам іх рабіць.

Размову вяла

**Вера Валкавыцкая**

Гутаркі ў дарозе

## БІ СВОЙ СВАЙГО!

Іван Яканюк з Чахоў Арлянскіх кажа: — Добрыя ў нас спевакі, і калектыў свой назвалі: „Песняры". Пажарніцкі калектыў — хлопцы як мае быць — ажно тут іхны камендант прыехаў і як не крыкне: „Змяніць назву!" Ну і змянілі, цяпер ужо не „Песняры", але... „Ноцнэ цене". Во, якая ў нас дэмакратызацыя дэмакратыі... А яшчэ напішыце ў „Ніве", што я — беларус, і ўсе тут беларусамі, і ў Чахах, і ў Дубічах, і ў Старакорніне (гэта ў Старакорніне былі дажынкі і стараста дажынак пачаў да сваіх людзей па-свойму прамову, дык нейкі начальнік, таксама — беларус, не даў яму!). Я вам скажу: не палякі ціснуць нашу мову, але свае, а чаму яны так не любяць беларускай мовы, то я ўжо і зразумець не магу, у гэтым розум чалавечы бяссільны, бо ж хто дурноту розумам растлумачыць?! Барскі ў „Ніве" праўдзіва пісаў: найбольш заядлымі ворагамі беларушчыны бываюць толькі беларусы! Бо паляк нават здзівіцца: народ павінен любіць сваю мову, гэта ён сам, народ, у мове сваёй існуе-жыве. Як палякі ў польскай мове, так беларусы павінны жыць у беларускай... **(ся)**

## НАЙЛЕПШЫЯ СУПРАЦЬПАЖАРНЫЯ КАМАНДЫ

У Беластоцкім ваяводстве дзейнічаюць 473 добраахвотныя супрацьпажарныя каманды (ОСП), якія згуртоўваюць звыш адзінаццаці тысяч членаў. Сярод іх існуюць 74 супрацьпажарныя каманды — маладзёжныя, жаночыя і гарцэрскія. Грамадска-культурную дзейнасць вядуць 117 пажарніцкіх рамізаў.

ОСП спаборнічаюць паміж сабой у галіне супрацьпажарнай бяспекі. У мінулым годзе найлепшымі былі каманды з **Заблудава, Райска** і **Дабжынева.** У 1983-1987 гадах былі адрамантаваныя 34 стражніцы і 36 супрацьпажарных басейнаў. **(яц)**

## „ТЫНЕВІЧАНКАМ" — 400 000!

Заслужаны мастацкі калектыў гміны Нараў жыве ў вёсцы Тыневічы Вялікія. І называецца ён — „Тыневічанкі". Гэта беларускі калектыў. Крыніца яго дзейнасці — родная зямля, свая вёска. Колькі тут песень, колькі абрадаў! І прыгаршчамі бяруць „Тыневічанкі" гэтае багацце і паказваюць людзям.

Калектыў у Тыневічах невялікі. Дзесятак, можа пятнаццаць тых жанчын. Але якія гэта жанчыны! Здольныя, працавітыя, упартыя, непераможныя! Спяваюць, іграюць ролі ў абрадавых фальклорных пастаноўках-п'есах, якія самі падбіраюць і запісваюць, самі сабе рэжысёры і сцэнарысты, самі сцэнографы і касцюмёры.

Ян Дудзіч — адзін мужчына, музыкант, што працуе з жаночым калектывам. З неадлучным сваім акардэонам гэты самавук вельмі ўмела апрацоўвае песні і музыку для выступленняў.

„Тыневічанкі" — чараўніцы. Такое казачнае іх названне прыйшло мне ў галаву, калі я вось нядаўна пабывала ў гміне ў Нарве. Аказваецца, з кожным начальнікам гміны ў „Тыневічанак" складваецца добрае, плённае супрацоўніцтва. Таямніца гэтакай з'явы напэўна ў тым, што „Тыневічанкі" — добры калектыў. Які начальнік не хацеў бы такі мець?

Новы начальнік гміны ў Нарве, Міхал Гацута, надта хваліў калектыў з Тыневіч, што ён добра выступіў на „людовым святце" гміны ў чэрвені г.г.

Дбайнасць таксама пра развіццё культурнага жыцця ў гміне паказвае і такі факт: „Тыневічанкі" атрымалі 400 тысяч злотых з аддзела культуры і мастацтва Ваяводскай управы ў Беластоку. У гэтай справе начальнік гміны асабіста размаўляў з дырэктарам аддзела Мар'яй Марандай.

Калектыў у Тыневічах напэўна падрыхтуе нам новыя высокамастацкія праграмы. Творчыя, неспакойныя тыневіцкія жанчыны не будуць маўчаць.

**(вв)**

## З ПАЕЗДКІ Ў БССР




Мы накіраваліся ў пад'езд з чырвонай цэглы. Па абодвух баках цягнуўся таксама мураваны старадаўні будынак з маленькімі акенцамі. За варотамі распасціраўся даволі прасторны, але ўжо забудаваны падворак, у глыбіні якога, на невялікім узгорку стаяла белакаменная, адносна невялічкая, аднакупальная царкоўка. Мой праваднік па старажытным Полацку, гісторык і пісьменнік Уладзімір Арлоў, урачыста апавясціў:

— Знаходзімся мы на тэрыторыі Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра, а вось гэта, — ён паказаў на белакаменную царкоўку пад зялёным купалам, — і ёсць жамчужына нашай даўніны.

Дзень стаяў халаднаваты і сонца ледзь прабівалася праз шэрыя, нізка плывучыя хмары. Ці ад гэтага халоднага парыву ветру, ці ад чаго іншага, я выразна адчуў, што маім целам на нейкую долю секунды авалодалі дзіўныя дрыготкі. Сэрца адчувальна паскорыла свой рытм. Колькі падзей, колькі здарэнняў, найчасцей крывавых, злавесных, непрыхільных беларускаму народу, бачылі гэтыя сцены!

На тэрыторыі Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра знаходзіліся яшчэ нейкія дзяўчаты, занятыя маляваннем, і рабочыя, якія корпаліся сярод недаваліназў старога будынка.

— Бачыце, — заўважыў Уладзімір Арлоў, — тут амаль без перапынку працягваюцца рэстаўрацыйныя работы. Вось паглядзіце сюды, — ён паказаў у левы бок ад манастырскіх варот, дзе ўся ў рыштаванні стаяла аграмадная шматкупальная царква. — Гэта Крыжаўздзвіжанскі сабор, — працягваў мой праваднік. — Яму няма яшчэ і ста гадоў. Быў ён збудаваны ў 1898 годзе ў псеўдавізантыйскім стылі. Пасля рэстаўрацыі ў гэтым колішнім саборы будзе абсталяваны планетарый, што сімвалізуе нябесная сфера, замацаваная на месцы даўнейшага крыжа.

**(Працяг на стар. 4)**



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# НА КУПАЛЛЕ Ў БОРЫКУ

Як ужо пісала „Ніва" № 31 ад 2.VIII.87 г. Беластоцкі ды Гарадоцкі аддзелы БГКТ сёлета спраўлялі купальскія ігрышчы ноччу з 11 на 12 ліпеня ва ўрочышчы Борык, што між Гарадком і чыгуначнай станцыяй Валілы. Добра і ўмела падрыхтаваная імпрэза прыцягнула больш за паўтысячы людзей. На ёй можна было спаткаць многа знаёмых і вядомых людзей, якія ехалі сюды, добрыя некалькі дзесяткаў кіламетраў.

Каля дзесятай вечара ўжо гарэла вогнішча, а беластоцкія і гарадоцкія самадзейнікі ў бляску яго полымя распачалі свята. Мастацкай часткай, якую яны з карпатлівасцю падрыхтавалі і прадставілі, можна было сапраўды захапіцца. Вясёлай і прывабнай была яна. Дык, пэўна, і таму непадалёкую „топтанку" амаль масава пакідала моладзь, спяшаючы паглядзець Купалле. А было чым захапіцца, бо і цыганкі, і чараўніцы, і злыя моцы, і кветкі-папараці дый вянкі, упрыгожаныя кветкамі, тут былі. Ну і песні, прыгожа, па-майстэрску праспяваныя. Што ж, сам Сцяпан Копа акампаніяваў, а спявалі беластоцкі і гарадоцкі хоры, Юрка Налівайка і нават хлопцы з беластоцкага „Звону". Спявалі ўсе, і бадай ўсё: і купальскія і іншыя, беларускія перад усім, але дзе-недзе луналі ў паветры руская „Рабіна" або польская „Саколы". У поўнач усе падаліся на рэчку, каб там пусціць свой вянок. Чый быў найпрыгажэйшы, невядома. Карпатліва сплеценыя з розных кветак і са свечкамі, плылі яны далёка па рэчцы Супраслі. Толькі неяк адважных не было, каб потым іх вылаўляць. Відаць баяліся людзі ачысціцца з грахоў, хаця Вера Леўчук так горача ўсіх заахвочвала. А потым быў пачастунак: каўбаскі і тушаная капуста, ну і традыцыйная невялічкая чарачка.

Цудоўнае наша адроджанае Купалле!..

**Прысутны**

Фота Ч. Яроцкага



Пад гармонік С. Копы ўсе ахвотна спявалі, а У. Праховіч з радыё ўвекавечваў спевы...



А прадказвала будучыню сама Мушынская!..



Пра некаторыя вяночкі хлопцы вельмі дбалі...



Шлях да Супраслі праз цёмны лес асвятлялі дзяўчаты.

**Юрка Баена**

# ЗЫГМУНТ ГЛОГЕР

### ЯГО ПАДАРОЖЖЫ І БЕЛАРУСКАЯ СКАРБНІЦА

Зыгмунт Глогер — гэта вядомы польскі археолаг, этнограф, гісторык, аўтар „Гістарычнай геаграфіі", „Польскага года" і „Старапольскай энцыклапедыі". Нарадзіўся ён 3 лістапада 1845 года ў Каменцы былога Аўгустоўскага павета Сувальскай губерні. Жыў у Яжэве — маёнтку на Падляшшы, над Нарвай, побач скрыжавання трактаў з Ломжы і Замброва ў Беласток, а таксама з Кнышына цераз Тыкацін у Саколы. Тут, у старанна дагледжаным садзе, стаяў драўляны памешчыцкі дом. У маёнтку, які ён пераняў па бацьку Яне Глогеры, было 840 гектараў зямлі. Вакол поле, сенажаці, балота, лес і цішыня...

Глогер быў чалавекам з усебаковымі зацікаўленнямі. Даследаваў ён старажытныя помнікі каменнага веку на тэрыторыі Польшчы, Беларусі і Літвы, запісваў народныя песні і абрады, у сваіх эскізах увекавечыў мноства падрабязнасцей з цяслярскага рамяства. Займаўся таксама публіцыстыкай, якая адносілася перш за ўсё да сацыяльна-эканамічнага жыцця краіны. Пра мінулае пісаў ён цёпла і адначасова хацеў паправіць сучаснае. Гэты „тытан працы з Яжэва" (так называла яго тадышняя прэса) быў арганізатарам і першым старшынёй Польскага краязнаўчага таварыства. Вандраваў па краіне заўсёды з энтузіязмам і ўсмешкай. Пры сабе заўжды насіў сшытак, алоўкі, нажніцы, запісваў назіранні і рабіў замалёўкі, вырэзваў з газет і камплектаваў інфармацыі. З альбомам для эскізаў спяшаўся ўсюды туды, адкуль прыходзілі весткі пра марнеючыя старыя хаты, памешчыцкія дамы, свіраны, цэрквы, касцёлы і сінагогі. Глогер не быў самотнікам, хіліўся да людзей і людзі яго паважалі і любілі. Зносіны з людзьмі навукі ён наладзіў яшчэ ў студэнцкія гады. Вучыўся ў Варшаўскай галоўнай школе, а потым перайшоў у Ягелонскі універсітэт, у Кракаў. Рэгулярную вучобу пакінуў для навуковых кантактаў са спецыялістамі і даследаванняў помнікаў мінуўшчыны.

Асоба З. Глогера, дзякуючы перш за ўсё рэгіянальнай і агульнапольскай прэсе, даволі добра вядома на Беласточчыне і ў цэлай краіне. У 1985 годзе імя гэтага выдатнага этнографа, фальклярыста, краязнаўцы і археолага было прысвоена Гарадскому аддзелу Польскага турыстычна-краязнаўчага таварыства ў Беластоку.

Год таму назад у сваёй настаўніцкай працы з вучнямі беларускай школы ў Бельску карыстаўся я біяграфічнай аповесцю „Глогер" аўтарства Тэрэсы Камароўскай. Мяне асабіста найбольш зацікавілі Глогеравы падарожжы па беларускіх землях, яго сувязі з нашым народам і адносіны да беларускіх нацыянальных праблемаў.

Адной з ранейшых навукова-даследчых прац, якую Глогер пад псеўданімам Прускі выдаў у 1869 годзе ў Кракаве, быў гэта першы том „Вясельных святкаванняў". Оскар Кольберг хваліў аўтара „Святкаванняў" за яго навуковую амбіцыю, захапленне і знаёмасць прадмета даследаванняў, шмат разоў пацвярджаў трапнасць яго ўлас-

(Працяг на стар. 4)

(Працяг са стар. 2)




„Ніве“. Барскі кажа, што наступ тэхнікі выклікаў асаблівы комплекс непаўнацэннасці ў сялян, прывіваючы ім такія рысы характару, як плач, смех, жах, а гэтыя рысы, на жаль, характэрныя ненармальным людзям. „Калі чалавек, — сцвярджае Барскі, — прагледзеўшы фільм, паплакаў, парагатаў або спалохаўся, дык лічыць, што бачыць сапраўднае мастацтва. Усё іншае не мае значэння“. Шматсерыйны фільм „Нявольніца Ізаўра“ шыты не толькі тоўстымі вяроўкамі, але проста вужамі і кракадзіламі, аднак жа вельмі падабаўся гаспадарам, ці то пад Саколкаю, ці каля Кляшчэляў, падабаўся і высокаадукаванай інтэлігенцыі ў самым цэнтры Варшавы, бо ў час паказу кінафільма пусцелі вуліцы сталіцы, можна сказаць: увесь народ тады імчаў да тэлевізараў, кінуўшы нават пільныя заняткі. усякую работу. Мала таго, галоўных акцёраў, выступаючых у гэтым фільме, з вялікім гонарам запрасілі з далёкай Бразіліі ў Польшчу (Ізаўру і Лявонція). У іх запрашэнні, вядома аніякай ролі не адыграў селянін з-пад Кляшчэляў ці Саколкі, хоць моцна апрабаваў потым тыя запросіны.

Чытаю Барскага і думаю сабе так: чаго ён хоча ад нашага брата-селяніна? На гэты фільм аднолькава вырачаўся і цёмны беларус і светлы інтэлігент-паляк, пражываючы ля магістральнай вуліцы Варшавы! Ці ж гэта блага, што ўсе людзі так чуйныя на людскую крыўду (фільм „Нявольніца Ізаўра“ пра крыўду чалавека менавіта расказвае, як умее). Гэта ж добра што ў народа такое дабразычлівае сэрца. Мог бы тут я закончыць слоўцамі Барскага: „Вось і ўсё“. Але не, не ўсё.

Прамінула ўжо больш сарака гадоў, як грамадскасць Польшчы, ну, і мы, беларусы, без перашкод карыстаемся дасягнен-

(Працяг на стар. 6)

## Свойскія малюнкі




*Стары Беласток. Баяры. Мал. Уладзіслава Петрука.*

(Працяг са стар. 3)

## ЗЫГМУНТ ГЛОГЕР

ных мясцовых назіранняў, добрасумленнасць і прафесіянальны падыход да матэрыялу з Падляшша.

У1871 г. у Кракаве з Глогерам пазнаёміўся васемнаццацігадовы тады Міхал Федароўскі — надзвычайны знаўца беларускага фальклору. Федароўскі ва ўспамінах пісаў: „Адразу захапіла мяне прыхільнасць яго і дабрата, а таксама незвычайная ў такім узросце роўнасць характару. Часу для мяне страціў нямала, знаёміў з рэчамі і людзьмі, даваў розныя ўказанні“. Гэта Глогер быў тым, хто ў пэўны момант паўстрымаў Федароўскага ад выезду заграніцу і яго ўвагу накіраваў на краёвую этнаграфію, апякуючыся яго пачатковымі працамі. З цягам часу знаёмства змянілася ў сяброўства. Многа дзён правялі яны разам у археалагічных і этнаграфічных экспедыцыях, добра ведалі свае дзялянкі зацікаўленняў. М. Федароўскі, вандруючы па Беларусі, прысылаў або прывозіў у Яжэва экземпляры саматужных вырабаў, народных убораў і прыладаў з-пад Ваўкавыска. Пружанаў, Ліды і Слоніма. Федароўскі больш, чым Глогер, сканцэнтраваўся на фальклоры, этнаграфіі і беларускім народзе і неўзабаве перарос настаўніка. Землі Беларусі яны абодва лічылі скарбніцай песняў, абрадаў і вераванняў. Тры першыя тамы „Люду беларускага“ М. Федароўскага выйшлі з друку ў 1897-1903 гадах, дзякуючы вялікай дапамозе Глогера.

Першае Глогеравае археалагічнае падарожжа на „ўсходнія крэсы“ адбылося ў 1871 годзе. Археолаг падарожнічаў па Нёмане ў ваколіцах Друскенікаў, дзе сабраў багаты навуковы плён. Знаходкі так захапілі Глогера, што ён увесну 1872 года яшчэ раз пастанавіў адправіцца ў наднёманскія ваколіцы на даўжэйшую навуковую экспедыцыю водным шляхам з Гродна ў Каўнас. Пісаў ад рукі пра ўсё тое, што звярнула яго ўвагу, выклікала хваляванне, захапленне, здзіўленне ці абурэнне, ды слаў у варшаўскія тыднёвікі дакладныя, вялікай краязнаўчай вартасці, рэляцыі. З гэтых карэспандэнцый можна скласці цудоўны, як на мінулае стагоддзе, турыстычны і краязнаўчы даведнік, які інфармаваў бы не толькі пра помнікі старадаўнасці і гісторыю тых месц, але і пра пагоду, фаўну і флору, а перш за ўсё расказваў бы аб людзях, іх наднёманскім жыцці, турботах і нястачах. Сёння гэтыя старонкі маюць вартасць маляўнічага дакумента стогадовай даўнасці. Гэта цыкл рэалістычных абразкоў. Апісваў ён хаты, вясковы ўбор, задумваўся над моўнымі і культурнымі праблемамі пагранічча. „Народ тут у параўнанні з пабрацімцамі яго, мазурамі, даволі хмурны — заўважыў — а песні яго амаль усе журботнай ноты. Побач найчасцейшых дум тужлівых, водгаласаў прыгнечанага дзявочага сэрца, люд тутэйшы мае таксама свае жартаўлівыя песні. Але найвялікшы прывілей мае дажынкавая песня“. Назіраючы за простымі людзьмі, пісаў далей: „Колькі ж то талентаў і геніяў жыве сярод цемнаты, памірае без ведаў... Там, дзе асвета даступная толькі некаторым грамадскім праслойкам, там з-за недахопу сіл наступае паніжэнне перад суседзямі і хутчэй ці пазней заняпад“. Разам з этнаграфічнымі, краязнаўчымі і гістарычнымі апісаннямі былі і заўвагі аб сельскай гаспадарцы.

У ліпені 1875 года сабраўся Глогер у чарговую рачную экскурсію, на гэты раз водамі Буга, на адрэзку ад Тэрэспаля праз Драгічын у Вірова на Падляшшы. Падобна як у папярэдніх падарожжах, галоўнай мэтай былі археалагічныя пошукі. Пабужжа аказалася, аднак, менш багатае ў скарбы каменнай эпохі, чым берагі Нёмана, таму больш часу было на знаёмства з людзьмі і мясцовасцямі, на апісанне ўласных прыгод і на разважанні. Асаблівае захапленне З. Глогера выклікаў Драгічын, які з лодкі цудоўна рэкамендаваўся, дамінуючы над ваколіцай мурамі храмавага бу-

(Працяг са стар. 2)

## З ПАЕЗДКІ Ў БССР

Сапраўды, узводзячы гэты пыхлівы Крыжаўздзвіжанскі сабор 90 гадоў таму назад, царскае самадзяржаўе намагалася прадэманстраваць сваю магутнасць, сваю прыгнятальную і непадзельную ўладу над беларускім народам. І я згодны з Валодзем Арловым, што гэты будынак не мае асабліва высокай гістарычнай вартасці. Хай тады служыць распаўсюджванню і замацаванню ведаў аб пабудове сфер нябесных, як калісьці гаварылі вучоныя людзі.

Справа зусім іншая, калі гаварыць пра гэтую скромненькую, у нашым цяперашнім разуменні, Спаса-Ефрасіннеўскую царкоўку. Трэба заглыбіцца ў сярэдзіну дванаццатага стагоддзя. Полацкі князь Георгій Усяславіч меў дзве дочкі: старэйшую Прадславу і малодшую Гардзіславу. Абедзве яны сталіся манашкамі, падаліся „*под иго Христово*“, як сцвярджаў іх бацька, засмучаны ўчынкамі дочак, пра што гаворыцца ў пазнейшым, спісаным пад канец XII ст. „*Жыціі Ефрасінні Полацкай*“. Таму і мы сёння ведаем аб векапомных здзяйсненнях гэтай сярэдневяковай беларускай асветніцы.

## Жамчужына нашай даўніны

— Ефрасіння Полацкая, — сцвярджае Уладзімір Арлоў, — паклала вялікія заслугі для беларускай культуры. Была яна ігуменняй Спаскага манастыра ў Полацку. Заснавала там скрыпторый, гэта значыць, своеасаблівую майстэрню па перапісванню старых царкоўных кніг і свецкіх хронік. Праўдападобна, сама таксама стварала рукапісы і арыгінальныя літаратурныя творы на старажытнай беларускай мове. На жаль. прамых доказаў на гэта мы не маем. Ігуменя Ефрасіння, — працягваў мой вучоны сябра, — апекавалася таксама будаўніцтвам. Пад яе наглядам былі ў Полацку пабудаваны жаночы і мужчынскі манастыры, ды вось гэтая царква...

Я зноў паглядзеў на гэтую нямую сведку нашай шматвяковай гісторыі. Яе архітэктурнае афармленне напаўняе чалавека радаснымі пачуццямі і кіруе яго ўвагу ўсё вышэй і вышэй, аж у нябесны далягляд. Знайсці тут можна штосьці з грэчаскай зямной весялосці і з візантыйскай сур'ёзнасці, засяроджанай на справах нябеснага свету.

Уладзімір Арлоў прадаўжаў сваю інфармацыю.

— Вядома нам імя дойліда, які ўзначальваў калектыў будаўнікоў Спаскага сабора. Гэта полацкі майстар Іаан. Царква збудаванаю была параўнальна хутка, на працягу нейкіх 8-9 гадоў, праўдападобна, між 1152-1162 гадамі. Першапачаткова выглядала яна крыху інакш. Не было гэтай класіцыстычнай надбудовы над уваходам і сам уваход у царкву быў іначай рас-



**Студэнтка Полацкага мастацкага інстытута Ларыса Корпева наносіць эскіз Спаса-Ефрасіннеўскай царквы.**

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

## У МІХАЛОВЕ МЯДЗВЕДЗІ?

Я люблю і часта чытаю „Ніву“, можна сказаць: рэгулярна. Пішаце вы там у „Ніве“ пра дзейнасць Беларускага грамадска-культурнага таварыства, пра фэсты беларускія, усякія конкурсы. А ў мяне ёсцека запытанне да вас: скажыце, калі ведаеце, ці і ў нашым Міхалове існуе тое Беларускае таварыства? Калісьці, як я ведаю, было яно тут, але, відаць, было ды сплыло альбо заснула непрабудным сном... Часам думаю сабе і так: Міхалова — гэта мястэчка, а мястэчка, вядома, хварэе на горад, і таму, магчыма, у гэтым нашым Міхалове дарэшты звяліся беларусы, няма з кім ужо і каму арганізаваць наша Таварыства? Беларус, як толькі трапіць у горад або ў гарадок які, дык пішы: прапала, горш ворага нам зробіцца!

Аднак, можа, варта спрабаваць аднавіць Беларускае таварыства ў Міхалове, бо, можа, было б яшчэ з кім і каму аднаўляць яго? Урэшце-рэшт, ваколіца Міхалова не зусім апусцынілася, сям-там жывуць, пакуль што людзі. А калі жывуць, то і патрэбы беларускія ў іх чыняць, а старыя, то і памятаюць гімн наш колішні: „Ад веку мы спалі, І нас разбудзілі...“

Няўжо тыповай рысай беларускага нацыянальнага жыцця будзе заставацца толькі сон і сон? Мы ж не мядзведзі, мы ж народ!

**Барыс Палоцкі,**
Азяблы пад Міхаловам.

**Ад рэдакцыі:** ліст Б. Палоцкага дакладна датычыць і іншых мястэчак, падобных на Міхалова. Напрыклад, ці чуваць што беларускае ў Кляшчэлях? Або ў Крынках, у Янаве, у Карыціне, ці Белай Падляшскай, Тэрэспалі? Маем надзею, што дзеячы Беларускага таварыства гэтак жа рэгулярна чытаюць „Ніву“ і таму займецца ім душа, адказваючы на запытанні Б. Палоцкага.

### Кпіны з Семяноўкі

Ці раз пісалі мы пра тое, што ў Семяноўцы адбываюцца якісьці кпіны з вулічным электрычным святлом: то ёсць яно, то няма! Цяпер як бы ёсць, але, аднак, не ўсюды, нават каля хаты солтыса рэдка бывае, хоць солтыс лічыцца ўладай. Найгорш у семяноўскім Новым Сяле, бо ў Гулачцы ўжо свецяць, дзякуй Богу. А можа быць спецыяльна так хто робіць, бо на Новым Сяле адбываюцца музыкі, ясная справа, часта з мардабоем. А які ж гэта мардабой, калі ўсюды відна? Найлепей угрэць па мухаедах папоцемку, тады добры размах і не пазнаць, каму аддаць потым важкую аплявуху... **Аўрорка**

---

даўніцтва. Апрацоўваючы пазней свае даклады, Глогер шмат месца прысвяціў гісторыі і апісанню гэтага горада.

Расло ў З. Глогера таксама захапленне старадаўняй абраднасцю — як ён меркаваў — Славяншчыны: „Над Віслай, Нарвай і Бугам у кожнага селяніна ляжаць на стале соль і хлеб, белым абрусам прыкрытыя — гатовы пачастунак для падарожніка, што ступае на парог хаты. Гэты стары славянскі звычай, які ва ўсёй сваёй чысціні, таксама як і многа іншых звычаяў, трымаецца толькі ў нас, у гэтым сэрцы старой Славяншчыны“.

Апісанні розных экскурсій вельмі старанна апрацаваныя, выдаў Глогер у 1903 годзе ў Варшаве ў кніжцы „Далінамі рэк. Апісанні падарожжаў уздоўж Нёмана, Віслы, Буга і Бебжы“.

Упершыню з Белавежскай і Свіслацкай пушчамі (яны знаходзіліся тады пад адной адміністрацыяй) азнаёміўся Глогер у маі 1880 года. У Белавежскую пушчу ўязджаў з боку Нараўкі. У лясніка, у якога затрымаўся, праваднікоў і паляўнічых распытваў пра мясцовыя назвы і звязаныя з імі легенды. Збіраў інфармацыі пра лясную гаспадарку, раскіданыя сярод пушчы вёскі, жыхароў і іх галоўныя праблемы — браканьерства і пажары. З вандровак вяртаўся Глогер зачараваны пушчай, з яшчэ большай прагай даведацца аб усім. Гартаў ён летапісы, каралеўскія рахункі, гістарычныя працы, нататкі ў прэсе. Інфармацый на тэму Белавежскай пушчы было тады, аднак, мала. Друкуючыся ў „Варшаўскай Бібліятэцы“ заахвочваў ён да наведвання пушчы. Выказваў таксама жаль, што не даследаваны дагэтуль розныя багацці пушчы.



Глогер ажаніўся вясной 1883 года. Яго жонка, 22-гадовая тады Аляксандра Ельская, званая блізкімі Алесяй, паходзіла з заможнага маёнтка Замосце, які знаходзіўся ў былым Ігуменскім павеце Мінскай губерні. Алеся Ельская закончыла прыватную жаночую сярэднюю школу ў французскім Версалі. Узрастала ў доме з інтэлектуальнымі амбіцыямі, не адзін раз памагала бацьку, у тым як перакладчыца з французскай мовы. Бацька яе — Аляксандр Карлавіч Ельскі быў беларускім этнографам, гісторыкам, эканамістам і пісьменнікам. У „Геаграфічным слоўніку зямель польскіх і іншых краёў славянскіх“ ён апісаў мясцовасці амаль усіх беларускіх паветаў. У „Беларускай Савецкай Энцыклапедыі“ гаворыцца, што ў сваім маёнтку А. Ельскі арганізаваў прыватны краязнаўчы музей, фонды якога налічвалі каля дваццаці тысяч рукапісаў, 700 кніг, болей за дзве тысячы гравюр і малюнкаў, тысячы запісаў беларускага фальклору, дыялектнай лексікі і мноства іншых рэчаў. Большасць экспанатаў загінула; толькі некаторыя трапілі ў музеі і архівы Вільні, Мінска, Варшавы і Кракава. Як Глогер усебакова ведаў Падляшша, так Ельскі ведаў сваю Міншчыну. Яднаў іх культ працы. Хачу яшчэ дадаць, што Аляксандр Ельскі пераклаў на беларускую мову першую частку „Пана Тадэуша“ Адама Міцкевіча.

У пазнейшыя гады Глогер з сям'ёй і сваімі сябрамі Міхалам Федароўскім, Янам Карловічам часта падарожнічалі ў глыб Беларусі. У 1889 годзе ён так пісаў у „Газету Варшаўскую“ пра краявіды Мінскай зямлі: „Хаты тут белыя, з круглякоў, пакрытыя саломай, замест коміна труба гліняная або бляшаная, што тырчыць з боку дома... Стрэхі хлявоў аплеценыя гарбузамі... Вясковыя вуліцы летам старанна падмеценыя“.

Быў таксама Глогер на Навагрудчыне. Сцежкі Міцкевіча завялі яго ў Завоссе, там ён нарысаваў свіронак і старэнькую кладоўку з пакойчыкам на паверсе, прызначаным на начлег маладым госцям, сярод якіх — як казала мясцовая легенда — былі і філаматы.

У апошнія гады свайго жыцця бачыў Глогер, як на ўскраінных землях прачыналіся і развіваліся нацыянальна-вызваленчыя рухі, спярша ўкраінцаў, потым літоўцаў і ўрэшце — беларусаў. З пашанай Глогер адносіўся да мясцовага насельніцтва, нягледзячы на тое, на якіх гаварыла яно мовах.

Памёр Глогер 15 жніўня 1910 года.

Матэрыялы, сабраныя Глогерам, — гэта важная крыніца па гісторыі і матэрыяльнай культуры беларусаў. Па праўдзе кажучы, пасля II сусветнай вайны выйшла з друку толькі „Старапольская энцыклапедыя“ (нядаўна было яе ўзнаўленне), але шматлікія працы і інфармацыі добра пратрывалі войны і знаходзяцца ў архівах перад усім Варшавы і Кракава. Нашым людзям навукі і студэнтам, у тым ліку і студэнтам беларускай філалогіі, прапаную пацікавіцца гэтым каштоўным навуковым матэрыялам і беларускай праблематыкай „тытана працы з Яжэва“.

**Юрка Баена**
**Мал. У. Петрука**

---

планаваны. Больш нагадвала яна сваім выглядам іншыя старажытныя славянскія саборы, скажам для прыкладу, тыя, што ва Уладзіміры. Ёсць дагавор між царкоўнымі і свецкімі ўладамі Беларусі, каб Спаса-Ефрасіннеўскай царкве вярнуць першапачатковы вонкавы выгляд.

Адначасова рэстаўрацыйныя работы прадбачваюцца таксама і ўнутры царквы. Аказваецца, што пад пазнейшымі наслойкамі алейнай фарбы дасканала захаваліся першапачатковыя фрэскі. Усё больш і больш відаць у гэтай царкве яркіх кармінавых, пурпурных і блакітных колераў. Практычна ўся ўнутраная паверхня Спаса-Ефрасіннеўскай царквы пакрыта гэтымі фрэскамі. Адзін з малюнкаў прадстаўляе, праўдападобна, стылізаваны на тадышнюю манеру партрэт самой жа ігуменні Ефрасінні. А ўсё разам — гэта ж бясцэнныя нашыя нацыянальныя каштоўнасці, доказ высокага мастацкага умельства продкаў беларускага народа.

Хацелася ўласнымі вачыма паглядзець гэтыя цуды. Царкоўка аднак, зусім слушна, стаяла пад моцным замком, а яе настаяцеля, на жаль, не ўдалося нам адшукаць. Нейкі тутэйшы сторож сказаў нам, што жыве ён недзе ў новым будаўніцтве і яго адрасу ён не ведае, або не хацеў выявіць.



**Жамчужына нашай даўніны Спаса-Ефрасіннеўская царква з паловы XII стагоддзя, якая шчасліва захавалася ў Полацку.**

— Прыходзьце ў нядзелю або ў нейкае праваслаўнае свята, — параіў гэты ж сторож. — Тады ў Спаса-Ефрасіннеўскай царкве адбываецца ўрачыстая багаслужба.

— У гэтай царкве, — расказваў мне далей Уладзімір Арлоў, — выяўлены таксама помнікі старажытнага беларускага пісьменства. Гэта розныя надпісы на фрэсках, а таксама так званыя „графіці“, гэта значыць, свавольныя надпісы цвёрдымі прадметамі, найчасцей рыльцамі, на сценах сабора. Некаторыя з іх зроблены на такой вышыні, што лёгка здагадацца, хто быў іх аўтарам. Гэта полацкія школяры, значыць, вучні тадышніх школ. Зразумела, што пісалі яны свае свавольныя заўвагі на гутарковай мове, якой карысталіся штодзённа. І ў гэтым каштоўнасць выяўленых „графіці“.

Я з удзячнасцю падумаў аб асветніцкай дзейнасці Ефрасінні Полацкай, якая таксама загадвала, каб тады вучыць дзяцей. І яшчэ ўспомніў пра яе каштоўны крыж, выкананы мясцовым ювелірным майстрам Лазарам Богшам у 1161 годзе. У апошнюю вайну ён недзе прапаў. Кажуць, што з Магілёва ўкралі яго гітлераўскія акупанты...

Пакідаючы тэрыторыю Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра, я на хвілінку спыніўся ля гэтых маладых жанчын, якія былі заняты маляваннем. Высветлілася, што гэта студэнткі Полацкага мастацкага інстытута, Ларыса і Ірына, якія ў рамках летніх практыкаванняў выконвалі эскізы ландшафту і збудаванняў гэтага гістарычнага месца. Пажадаў я ім удачы.

Дзень ужо канчаўся і быў гэта апошні дзень маёй пабыўкі на зямлі колішніх крывічоў. Я вяртаўся ў Віцебск, а з Віцебска — амаль у свае родныя старонкі, на Брэстчыну.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара



© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

(Працяг са стар. 4)




нямі цывілізацыі. Сённяшні чалавек з-пад Кляшчэляў або з-пад Саколкі — гэта не нейкае чалавекападобнае стварэнне, пагорбленае ад голаду ды холаду, а накормленая і рагатлівая публіка. І, відаць, яна дае рады адрозніць „ліпу“ ад мастацтва, добрае ад благога. У сённяшняй вёсцы не бачу я абадранцаў і прыдуркаў, якія рагочуць без дай патрэбы або слязьмі заліваюцца невядома чаго. Гаспадар, можа быць, і не горш апранаецца ад гараджаніна, праўда, працуе ён непараўнальна даўжэй, чымсьці тыя восем гадзін у фабрыцы. Іншы раз і паспаць няма калі гаспадару, скажам, у жніво. Чым жа горшы выгляд гаспадарскай дачкі ад работніцкай у Беластоку?

Гаспадар любіць, у вальнейшую часіну, паглядзець у тэлевізары такія фільмы , як той, „Нявольніца Ізаўра“. Аказваецца, варшаўскі інжынерык таксама любіць. Гаспадар ахвотны падлячыць свае абшарпаныя працавітаю натугаю нервы, гледзячы камедыі з удзелам вялікага Чапліна. На слабыя і нудныя фільмы шкада часу, ад нуды і вочы зліпаюцца, на сон хіліць.

А з тымі страхамі, таксама, нешта не так, паважаны Алесь Барскі! Старэйшыя нашы людзі, якія перажылі вайну, усё роўна дзе, ці пад Кляшчэлямі ці пад Саколкаю, — даволі ім ужо страхаў. Не аднаму з іх смерць выскальвалася ў твар. І сёння, калі на нейкім фэсце адурэлае цацкаю-каркоўцам дзіцяня возьме і стрэльне ўгору, дык старому сэрца аж ўздрыгане ад таго балоча. Хоць і ведае ён, што гэта цацка так страляе, аднак памяць пра дзікасць вайны засталася назаўсёды, да скону.

**К. П.**




# НІКОЛІ НЕВЯДОМА

**РАЗМОВА З МІРАЙ ЛУКШАЙ**

**Бажэна:** Міра, адкуль у цябе бярэцца столькі часу і сілы на ўсё — на працу ў „Ніве“, навуку, дзейнасць у Згуртаванні польскіх студэнтаў, гадоўлю кветак і жывёлаў, вядзенне хатняй гаспадаркі, заняткі ў клубе маладых пісьменнікаў, сяброўства з цікавымі і менш цікавымі, людзьмі, міжнародныя кантакты?..

**Міра:** Праўда, часам, калі куплю паштовыя маркі на лісты, мала мне застаецца залатовак на... хлеб! Але, ўсё ж, „добра выглядаю“, быццам і не бегаю, як вавёрка ў калясе; амаль паўгалодная. Што цікава, хаця маю столькі розных заняткаў, у мяне заўсёды многа часу.

**Б.:** Цяпер працуеш ноччу ў „хлодні“ пры выгрузцы трускалак...

**М.:** Паглядзі, як патрэскаліся пальчыкі. Мушу зарабіць на дарогу ў міжнародны студэнцкі лагер працы ў Кішынёве, дзе буду кіраўніком польскай групы. Не буду ж прасіць грошай у бацькоў! Не ведаеш, колькі дзялоў з сарганізаваннем усяго, з усімі гэтымі паперкамі! І з усім бегай за сябрамі, прыпамінай, што-дзе-калі, а яны, быццам робяць табе ласку, што ўвогуле едуць. Адна сяброўка сказала мне, нядаўна, у сувязі з тым: яна — гуманістка, а ў гуманістаў няма галавы да такіх „канкрэтных“ прыземных спраў, а без якіх няма, аднак, жыцця. Хто гэта такі — гуманіст? Памойму — гэта такі чалавек, у якога адкрытая галава і праветраны розум, да якога маюць доступ веды. Ён умее кіраваць сваім жыццём і развіццём ды патрапіць пераказаць сябе іншым. А цяжка, калі чалавек, які не ўмее сам авалодаць сабою, становіцца, напрыклад, настаўнікам, і думае фармаваць іншых. Думаю, што жыццё ў хаосе „псеўдагуманістыкі“ і „псеўдамастацтва“ — гэта не прычына дзеля самахвальства. „Артыстычнае бязладдзе“ — гэта якраз лад, складзены май-



страм. Імправізаваць можа толькі такі майстар, які дасканала ўмее іграць на падуладным яму інструменце...

**Б.:** Ты гаворыш вельмі хутка, быццам баішся, што не паспееш...

М.: Ніколі не вядома, што заўтра чакае чалавека. Стараюся жыць так, быццам заўтра чакае мяне нейкая гібель! Гэта дазваляе настаянна быць у цудоўнай напружанасці сумлення, цела і душы. Ведаю, што жыву, ведаю, што мушу зберагчы чысціню душы, чырвоную кроў, чыстыя рукі. Каб не толькі праз ветлівасць і далікатнасць не гаварылі пра мяне дрэнна, але каб у памяці кожнага застаўся па мне добры след.

**Б.:** А што, не любіш мець ворагаў, праціўнікаў?

**М.:** А што было б гэта за жыццё, без супярэчнасцей? Добра мець і адпаведных сяброў, і адпаведных ворагаў — усё на добрым узроўні! Такіх, якіх можна цаніць. З сябрамі — гэта ўсяляк бывае. Часам кахаеш каго-небудзь не за нешта, але проці чагосьці. Я сабе на сяброў шукаю людзей добрых, лепшых за мяне, з якіх магу ў чым-небудзь браць прыклад. Такіх, якія шануюць праўду іншых. Проста — каштоўных людзей.

**Б.:** Але я ведаю такіх, якія ў нічым спецыяльна не вылучаюцца, а нават у іх мноства адмоўных рысаў, але яны з табою?

**М.:** Відавочна, я ім патрэбная. Адну з гэтых асоб люблю асабліва, а яна і не ведае, наколькі. Зрэшты, не выкінеш жа чалавека за дзверы. Заўсёды з кожным можна карысна пагутарыць. Няма нецікавых людзей.

**Б.:** Выкарыстоўваеш „біяграфіі...“

**М.:** Не назаву гэтага „выкарыстоўваннем“. Проста — ёсць у мяне нейкая магчымасць „перажаыць“ кожную гэтую біяграфію. Зрэшты, гэта не біяграфіі маіх сяброў становяцца асновай таго, што пішу, але перш за ўсё — тыя, аб якіх пішу, становяцца маімі сябрамі. Але гэта не найважнейшае, тое пісанне! Мы разам вучымся жыць. Гэта не навука, як увогуле „пражыць“ на гэтым свеце, поўным зла і нянавісці, але як жыць, бачыць красу, несучы радасць і любоў, спазнаваць. На тое, у канцы канцоў, і прыйшоў чалавек на свет. Забеганыя, заклапочаныя людзі ў ярме штодзённічыны забываюць аб сваім даўнім дзіцячых...

## ШЛЯХАМ ГАДОЎ




Як на троцкім замку праходзіла тая цяжкая размова старэнькага бацькі з сынам у росквіце гадоў у адзін з позніх вечароў у канцы зімы 1381 года, сёння цяжка здагадацца. Сядзелі яны, мабыць, ля палаючага каміна ва ўтульнай, усланай мядзвежымі і вяпровымі скурамі ды ўвешанай здабычнай зброяй, павалушы, у якой уладары замка звыклі праводзіць патайныя размовы.

Вітаўт у задуменні сачыў, як прагнае полымя раструшчвае ў палкі жар сухое бярозавае паленне, і маўчаў. Затое Кейстут не мог паўстрымаць свайго ўзбурэння: раз по раз цяжка ўздыхаў, нешта бурчэў у патрыяршую сівую бараду, зрываўся з лавы ды часценькімі старэчымі крочкамі набліжаўся да вузкага акна-байніцы і чуйна прыслухоўваўся. Але адтуль данасілася толькі нуднае завыванне сакавіцкай завейкі, налятаючай з-над усё яшчэ ўкаванага лёдам возера і парывамі ўдараючай у таўшчэзныя сцены крэпасці, ды час ад часу чуліся пераклічкі вартавых. І стары князь прысядаў каля сына і таксама заглыбляўся ў свае маркотныя думы.

Так, тая зіма ім абодвум не паскупіла балючых прыкрасцей. Толькі разважылі яны, якім чынам вярнуць да жыцця ды забяспечыць ад наступных крыжацкіх найсцяў Панароўе і Пабужжа, і Вітаўт ужо загадаў сядлаць коней, каб зараз жа вяртацца ў Дарагічын і брацца за гэтую справу, як па замку разнеслася чутка, што запрапасціўся недзе Вайдута. Гэтага няўрымслівага падлетка, сына сышоўшага ў Нямеччыну Бутаўта, старшага Вітаўтавага брата, найбольш з усіх сваіх нешматлікіх унукаў кахаў Кейстут. Клапаціўся пра яго не меней, чым родная маці — пакінутая мужам княгіня. Прыставіў яму самага даверанага сабе пестуна-„дзядзьку“, прызначыў сваіх і замежных настаўнікаў ды і сам не спускаў з яго ўважлівага вока. І хлопец рос і развіваўся на пацеху маці і дзеду: быў здаровым і кемлівым. Кейстут, мабыць, звязваў з гэтым звітным унукам будучыню дзяржавы. А Вайдута, як толькі яму дазвалялі, прападаў на паляваннях, нярэдка па некалькі дзён. Таму і гэтым разам спачатку ніхто не звярнуў увагі на яго адсутнасць. Але калі ад Пуні, пагранічнай крэпасці на Нёмане, прымчалася некалькі баярскіх сыноў — удзельнікаў Вайдутавых паляванняў — тады стала вядома: Кейстутаў унук падаўся да крыжакаў, да свайго бацькі. Яго сябры наперабой адзін перад адным расказвалі панураму ад такой весткі Кейстуту ўсе падрабязнасці гэтых уцёкаў. Падчас палявання княжыч і яго нямецкі настаўнік увесь час хіліліся ў бок Нёмана, тлумачачы, што там больш буйнага звера. Калі іхняя грамадка стала на стромкім нёманскім беразе, Вайдута крыкнуў сябрам: „Бывайце!“ і са сваім немцам спусціўся са страмніны на лёд ды неўзабаве яны зніклі ў зарасніках, на крыжацкім баку ракі. Юнакі струпянелі ад нечаканасці, ад каго як ад каго, але ад каханага Кейстутавага ўнука яны такой здрады не спадзяваліся. Ачуняўшы, ударылі па конях і паімчаліся проста ў Трокі.

Кейстут выслухаў іх і, не падымаючы вачэй ад падлогі запытаўся:

— Каму яшчэ плялі вы гэтую лухту?

Хлопцам не па сабе стала, яны спрабавалі запярэчыць:

— Але ж гэта чыстая праўда! Княжа, мы не ілжэм! — ускліκнулі яны. — І нікому не казалі, да вас, гаспадар, спяшаліся...

Кейстут грозна зірнуў кожнаму з іх у вочы і перапытаў:

— Не казалі? Напэўна?

— Нідзе нікому! Напэўна... Не пасмелі б...

Заенчылі юнакі, прадчуваючы нядобрае.

Кейстут тупнуў нагою і ў дзвярах з'явілася некалькі яго асабістых ахоўнікаў.

— У склеп іх і ні з кім ні слова пра тое! — загадаў князь, кіўнуўшы на няўдачлівых Вайдутавых сяброў.

Здаравенныя ахоўнікі схапілі анямеўшых хлопцаў і вывалаклі іх за дзверы.

Аднак, нягледзячы на ўсе княжацкія асцярогі і засцярогі, здраду Кейстутавага ўнука не



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

цячым захапленні. І наступаюць хвіліны, калі застаецца ім толькі жаль, трывога і сум за гармоніяй, за адчуваннем свету і бачаннем яго.

**Б.:** Паэты бачаць?

**М.:** Але паэтам таксама толькі „бываецца“ — гавораць. Гэта хвіліны натхнення, калі тое, што адчуваем, можам пераліць у словах (зрэшты, можна быць таксама паэтам, будучы непісьменным). Быццё паэтам — гэта таксама прыкметная для старонніх рэакцыя на рэчаіснасць. Для такіх людзей паэт — гэта нерацыянальны „дурны Іванка“, які патрапіць стаць, як стоўб, над нечым звычайным, аддаць усё чужым ці абняць чужога і даверыць яму свае пачуцці. Даверыць свой верш ананімнаму чытачу — гэта таксама своеасаблівы экстгібіцыянізм і адвага...

Чалавек, які настаўлены толькі на здабыванне і накопліванне матэрыяльнай маёмасці, забывае аб сваёй істоце Адама. Забывае таксама аб хвілінах цішыні, спакою і канцэнтрацыі, патрэбных, як паветра для нармальнай працы арганізму і духа.

**Б.:** Вакол цябе няма цішыні!

**М.:** Ох, для гэтага патрэбна хвіліна адзіноцтва! Зрэшты, я ўжо патраплю і „выключыцца“ ў найбольшым гомане. Умею заснуць на 15-20 мінут, задрамаць, калі гэта патрэбна для арганізму. Ведаю, што трэба дбаць пра сваё здароўе і рацыянальна выкарыстоўваць жыццё, хаця, можа, часам не выглядае на тое!

**Б.:** Некаторыя лічаць цябе сур'ёзнай, лагоднай, задуменнай...

**М.:** Яны заўсёды трапляюць на мае „станы канцэнтрацыі“. А можа гэта якраз яны іх ствараюць? Так, так, пане С. Я...

**Гутарыла Бажэна Самасевіч**

## ДАРАГІЯ ЧЫТАЧЫ

Пачынаючы з сённяшняга нумара, будзем змяшчаць у „Ніве“ расклады руху паяздоў і аўтобусаў са станцыі у Бельску, Гайнаўцы, Сямяцічах, Саколцы. Яны важныя да адкліканія. Раім захоўваць іх для скарыстання.

### РАСКЛАД РУХУ ПАЯЗДОЎ З БЕЛЬСКА ПАДЛЯШСКАГА

| Прыезд | Кірунак | Ад'езд |
|---|---|---|
| 0.01, 5.12, 6.45, 10.08, 15.02, 16.40, 18.29, 22.22 | Беласток | 4.25, 5.55, 7.40, 11.42, 15.10, 18.35, 22.29 |
| 7.38, 17.58, 22.18 | Белавежа | 5.35, 18.35, 22.33 |
| 5.30, 7.29, 11.39, 14.36, 18.32, 21.20 | Чаромха | 0.05, 6.48, 10.10, 13.55, 15.05, 16.42, 18.50, 22.24 |
| 4.23, 5.20, 7.38, 11.30, 14.58, 17.58, 22.18 | Гайнаўка | 5.35, 7.50, 12.50, 15.14, 18.35, 22.33 |
| 5.30 | Люблін | 0.05 |
| 5.30, 11.39, 18.32 | Седльцы | 0.05, 6.48, 10.10, 15.05 |
| 0.01 | Элк | 5.55 |

## НАМ АДКАЗВАЮЦЬ

W odpowiedzi na publikację prasową Ob. Walentego Siemieniuka „I prapadaj z licham“, zamieszczoną w Nr 26 (1624) „Niwy“, Dyrekcja Zespołu Opieki Zdrowotnej w Bielsku Podlaskim wyjaśnia, co następuje:

Od dnia 1986.08.01 Dyrekcja ZOZ w Bielsku Podlaskim zatrudniła na pełnym etacie w WOZ Dubiażyn lekarza medycyny Alicję Rękawek. Lek. med Rękawek posiada pierwszy stopień specjalizacji z chorób wewnętrznych. Jest doświadczonym lekarzem, przez przeszło 20 lat pracowała w ośrodkach wiejskich.

Mieszka na stałe w budynku Ośrodka. Zdaniem Dyrekcji pacjenci nie mają kłopotów z uzyskaniem porady lekarskiej w Ośrodku Zdrowia w Dubiażynie.

Zespół Opieki Zdrowotnej
w Bielsku Podlaskim
Dyrektor ZOZ
Dr med. A. Modzelewski

Bielsk, 14.07.1987 г.

МНОГАЕ, БРАТОК, ГУБЛЯЕШ, КАЛІ „НІВУ“ НЕ ЧЫТАЕШ!

## ІЛЬГОТЫ НЕАБХОДНЫЯ

Зямля зямлі не роўная. Вось, напрыклад, у былым Сакольскім павеце: у Карыцінскай і Янаўскай гмінах — высакаякасныя зямельныя ўгоддзі, а ў гмінах Шудзялаўскай і Крынскай — землі слабенькія. Больш на іх напрацуешся, а даходы будуць значна меншыя. А грошы ж патрэбныя і на мінеральныя ўгнаенні, і на сельскагаспадарчую тэхніку, і на іншыя інвестыцыі. Ды і да сваіх сенажацяў яны вымушаны ехаць па 10, 20, а некаторыя нават і па 30 кіламетраў, аж да рэчкі Супрасль.

— У Шудзялаўскай гміне з-за недахопу фінансавых сродкаў адстала механізацыя сельскай гаспадаркі. Яна спозненая не менш, чым на 15 гадоў, — гаворыць першы сакратар гміннага камітэта ПАРП Станіслаў Кувейша. — Гэтага спазнення ў значнай ступені можна было б пазбегнуць, каб была ў нас больш эластычная падаткавая сістэма, што прадугледжвала б ільготы для гаспадароў, якія працуюць на слабых, менш якасных зялёных угоддзях. Спрыяла б гэта і змяншэнню міграцыі сялян у гарады, не адмаўляліся б яны ад сваёй адвечнай прафесіі селяніна.

У Шудзялаўскай гміне налічваецца сёння 1370 гаспадароў. Да 35 год — 10,3 прац., ад 35 да 44 год — 16,6 прац. і ад 45 да 54 год — 26,7 прац. Пры лепшых гаспадарчых умовах гэтыя людзі могуць абрабіць яшчэ шмат зямлі і выпрадукаваць нямала збожжа і мяса. Яшчэ ёсць крыху часу, каб не апусцелі цалкам усе вёскі на „ўсходняй сцяне“, пры ўмове, аднак, што будуць змяняцца адносіны да гэтых мясцовасцей і тутэйшыя сяляне атрымаюць ільготы прыкладна такія, якія маюць сяляне ў горных раёнах нашай краіны. Гэта справа тэрміновая, яна патрабуе дзяржаўнага вырашэння.

У Шудзялаўскай гміне ёсць цяпер 1500 гектараў дзяржаўнага фонду зямлі, але аблогам яна не ляжыць, людзі яе апрацоўваюць цішком, і, калі б гмінныя ўлады цвёрда дамагаліся аплачвання падаткаў за гэтыя землі, зямля не прынесла б нікому ніякай карысці. Мне здаецца, што трэба выбраць меншае зло, бо нават сельскія пенсіянеры пры нізкіх падатках за зямлю з дзяржаўнага фонду ахвотна апрацоўваюць яе. А ўжо ж у гміне ёсць амаль цэлыя вёскі пенсіянераў. Да такіх вёсак належаць Новы Востраў, Кнышэвічы і Слюя. Там сапраўдных гаспадароў, якім яшчэ шмат гадоў да пенсіі, засталося ўжо зусім нямнога.

**Міхась Хмялеўскі**

ўдалося скрыць і праз некалькі тыдняў ведала пра яе ўсё Вялікае княства. Стары князь перажываў падвойна: і з-за ганьбячай дынастыю здрады, і з-за страты каханай істоты. Ён, загадаўшы Вітаўту застацца ў Троках, падаўся сам у адлеглую пагранічную крэпасць Жмудзі і там, у вялікай таямніцы, старанна падрыхтаваў і выслаў у Ордэн некалькі рыскуноў, каб расшукалі ўцекача і воляй ці няволяй справадзілі яго адтуль да дзеда. Аднак міналі тыдні і месяцы, але пра Вайдуту не даходзіла ні слыху ні дыху.

Затое праз які тыдзень ад уцёкаў Вайдуты з-за Нёмана на Кейстутавы ўладанні „хлынула вялікае крыжацкае нашэсце, — як піша польскі гісторык М. Косман, — наезнікі прыцягнулі навейшыя машыны для разбівання крапасных умацаванняў і ламання баявога парадку непрыяцеля ў адкрытым полі, а таксама прывялі з сабою многа рыцараў з Заходняй Еўропы. Зніштажэнні былі страшэнныя — толькі палонных вывелі ў Прусію тры тысячы, не кажучы ўжо пра нарабаванае дабро“.

Кейстут з сынамі Вітаўтам і Зыгмунтам, узняўшы на Панямонні Пагоню, атакавалі наезнікаў, намагаліся не пусціць іх у глыб краіны. Загарадзілі zавалами ды засекамі найважнейшыя шляхі, што вялі на Кернава, Трокі, Варэну і Горадню ды днём і ноччу непакоілі ворага неспадзяванымі наскокамі. Хоць крыжакі кваліліся на Трокі, але не здолелі прабіцца да іх праз зацятую абарону.

Падчас праследвання адступаючага ворага, Кейстутавым воям удалося захапіць у палон некалькі крыжацкіх рыцараў, што марадзёрачы па аўкштоцкіх сялібах, адбіліся ад сваіх асноўных войск. Кейстут з сынамі ўзялі іх на допыты ўжо пасля таго, як агледзелі зніштажэнні ды далі цівунам загады пра аднаўленне пашкоджаных умацаванняў. Прыведзеныя з замкавага змрочнага падзямелля ў залітую промнямі сакавіцкага сонца павалушу палонныя жмурыліся, але трымаліся фанабэрыста, задзёрліва. Патрабавалі, як звычайна бывала з крыжакамі, вызваліць іх з няволі, пачалі нават пагражаць. Кейстут некалькімі вострымі словамі пра тое, хто тут ад чые добрай ласкі залежыць, крыху суняў іхнюю пыху. Аднак адзін з крыжакаў з'едліва выкрыкнуў:

— Княжа, не страшы нас! Дні твае ўжо палічаны... Палічылі іх твае найбліжэйшыя...

Кажучы тое, ён шматзначна зірнуў у бок Вітаўта.

Ад гэтага позірку Вітаўтаў твар змяніўся, збялеў. Аднак князь не толькі не азваўся, але і віду не падаў, што гэтыя словы датычаць таксама яго. Аднак Кейстутава спрактыкаванае вока тую збянтэжанасць на сынавым твары добра прыкмеціла.

Допыты цягнуліся даволі доўга, бо і стары князь і абодва княжычы хацелі выведаць як мага болей пра вайсковую сілу і намеры ворага.

І тады, адпачыўшы пасля допытаў, ужо познім вечарам, задуменна гледзячы на палаючае паленне ў каміне, Кейстут загаварыў:

— Здрада... Усюды здрада... У сваім жа родзе, у сям'і. Вось і ты, Вітаўце, — і ён паклаў руку на сынава плячо, а той ад гэтага дотыку здрыгануўся, быццам гэта была не бацькоўская рука, а распаленае жалеза. — Вось і ты, сынок, у прыязні з Ягайлам жывеш. Больш роднага брата яго любіш, мацней за мяне яго шануеш. А ці ведаеш ты, што Ягайлушка нас з табой крыжакам прадаў?..

— Як так — прадаў? — усхапіўся Вітаўт.

— А так — прадаў і ўсё...

І тады Кейстут, пераказаўшы вестку, прывезеную яму некалькі месяцаў таму назад Гюнтэрам фон Гогенштэйнам, дадаў:

— І ўсё далейшае — і напады на тваё Пабужжа і на маё Панямонне — даказваюць, што мой кум не маніць, хоць і крыжак ён.

— Ойча! Гэта няпраўда! — усклікнуў Вітаўт. — Мы з Ягайлам жывём душа ў душу — ён адкрыўся б мне... Не, не веру!

— Доўгі час і мне не верылася. Але вось сёння, слухаючы гэтага ганарлівага крыжака, я канчаткова пераканаўся, што кум мне праўданьку казаў.

— А я веру Ягайлу, — запярэчыў яму Вітаўт і падаўся з бацькавай павалушы ў сваю спальню.

Назаўтра, на золаку, у невялікай грамадцы маладых баяраў ён ужо імчаўся па Гарадзенскім шляху на поўдзень, каб праз два дні завітаць у Горадню, а потым падацца ў свае любімыя Дарагічыншчыну і Берасцейшчыну.

**Мікола Гайдук**



© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

(Працяг са стар. 9)

— Чаго ж ты сядзіш, дурань? Пара на магілу да бацькі ісці, сёння твая чарга!

— Чарга, дык чарга, — пачаў збірацца малодшы. Узяў з сабой хамут пацёрты, ды кавалак скуры, каб ноч без работы не сядзець, і пайшоў. Прыйшоў на месца, узяўся за хамут — не заўважыў як паўночы мінула. Зноў пытае бацька:

— Гэта малодшы сын мой прыйшоў?

— Але. Гэта я, бацька! — адказвае малодшы.

— Дзякуй табе, сынок! — кажа бацька. — За тое, што прыйшоў ты да мяне і трэці раз, — вось табе дыяментавы свісток. Калі трэба будзе, — толькі свісні, і прыбяжыць да цябе дыяментавы конь пад дыяментавым сядлом, з дыяментавай вопраткай. А ты ўжо рабі, што ведаеш!

Бачыць малодшы — ляжыць на траве дыяментавы свісток. Падняў хлопец свісток, паклаў у кішэню, бацьку дзякуй сказаў. Раніцай вярнуўся дадому, пэлы хамут на цвік павесіў. Браты ні аб чым яго не запыталі, ім і клопату мала — спаў малодшы, ці вачэй не звёў, загадваюць ісці стагі кідаць. Пайшоў хлапец, куды паслалі, увесь дзень працаваў ды бацьку ўспамінаў.

Раптам чуе ён — імчыцца вяшчальнік па дарозе, спыняецца і крычыць:

— Загадаў наш кароль усім абвясціць сваю волю: хто з добрых падданых нашых здолее падняцца на вяршыню шкляной гары і здыме з пальца любімай дачкі нашай дыяментавы пярсцёнак, таго выбера яна сваім мужам.




А была тая прынцэса незвычайнай прыгажосці і адзінай дачка ў свайго бацькі. Нямала жаніхоў сваталася да яе, ды ніяк не магла яна выбраць сабе мужа. Хацелася ёй стаць жонкай разумнага, добрага, сумленнага, смелага чалавека, але ж ці можна даведацца, які жаніх на самай справе? А ўжо, каб узяць сабе за жонку прыгажуню прынцэсу з яе багатым пасагам, жаніхі языкоў не шкадавалі! І загадаў кароль збудаваць высокую шкляную гару. На вяршыні яе зрабілі для прынцэсы альтанку, каб сонца не апаліла яе прыгожы твар, каб дождж не прамачыў яе цудоўныя валасы. І загадаў кароль абвясціць па ўсім свеце, што жадае прынцэса выбраць сабе мужа і чакае таго, хто здыме пярсцёнак з яе рукі... А каб узабрацца на гэтую гару, — і кемлівасць, і сілу, і смеласць трэба мець!

Купіў не купіў, а патаргаваць можна: пачалі адусюль прыязджаць і прынцы, і сыны багатых бацькоў, і тыя, хто трохі бяднейшы, — кожнаму хочацца быць зяцем караля. А за імі паваліў да шкляной гары просты народ — кожнаму хочацца паглядзець на таго шчаслівчыка, які здыме пярсцёнак з пальчыка прынцэсы. Абодва старэйшыя браты нашага дурнічкі таксама пачалі збірацца, надзелі самую лепшую вопратку, што дасталі з разнога куфра: кашулі палатняныя, паясы тканыя, разнакаляровыя, сінія штаны ды кафтаны белыя шарсцяныя зверху — абулі боты са скрыпам. Глядзяць адзін на аднаго — ну, хоць зараз пад вянец з прынцэсай! Тут і малодшы не вытрымаў, кажа братам:

— Браткі, родныя! Вазьміце і мяне з сабою.

— Што гэта табе ў галаву прыйшло?! — адказвае яму старэйшы брат. — Мы і разумныя і сумленныя, такіх зяцёў каралю саромецца няма чаго, а што ж будзе рабіць ён з табою — дурнем? Ідзі ты лепш у лес, ды грыбоў назбірай, ды паліўку згатуй — як вернемся, падсілкуемся!

(Заканчэнне ў наступным нумары)

## ПАЗНАЁМІМСЯ

* * *

СССР, 301254, Тульская обл., Одоевский р-н, с. Рылёво, Интернат, Никитиной Галине, 13 год.

* * *

СССР, 347033, Ростовская обл., Белокалитвенский р-н., х. Ильинка, ул. Октябрьская, 29, Сусловой Ирине.

* * *

СССР, 301254, Тульская обл., Одоевский р-н, с. Рылёво, Лапину Валерию, 4 клас.

## АДГАДАНКА

### Таямніца планеты Алькор

19 снежня 2025 года. Касмадром. На старце зоркалёт „Пегасік".

— Гатоўнасць нумар адзін!

Камандзір касмічнага карабля Янка і бортінжынер Алесь у трывозе: дзе трэці член экіпажа? Раптам успыхнулі лямпачкі нейкага таямнічага апарата. Адкуль ён тут?

Я — Ро-бік! Я — Ро-бік! — пачулі касманаўты...

*

Хутчэй, хлопцы, за работу! Трэба выразаць гэтыя асобныя часткі — кавалачкі і наклеіць іх на паперу. Кагó вы бачыце? Гэта і ёсць трэці член экіпажа. Без яго старт зоркалёта быў бы немагчымы. Дапамажыце Алесю і Янку!

## Вясёлы куточак

Маленькі хлопчык убачыў вялікага сабаку, падбег да яго, і пачаў агладаць яго хвост. Маці крыкнула:

— Не чапай сабаку, бо ўкусіць.

— Што ты, мама! Сабакі з гэтага канца не кусаюцца.

* * *

Ідзе дзядуля праз парк і раптам чуе, што нешта яму на пляча капнула. Уздыхнуў галасна дзядуля:

— Для іншых, дык птушачкі спяваюць!

* * *

Іванка кінуў камень і трапіў у чужое акно. Толькі хацеў уцячы, а тут дзядзька яго — за каўнер.

— Ты куды ўцякаеш, а хто мне за выбітую шыбу заплаціць?

— Я не ўцякаю, я хачу толькі пабегчы дадому па грошы, — адказаў пакорліва Іванка.

* * *

Два дзядулі селі на лавачку. Адзін з іх глянуў у бінокль і сказаў:

— Добры кавалак дарогі яшчэ перад намі...

— Так, асабліва калі ты бінокль адвярнуў другім канцом...

* * *

Настаўніца:

— Скажы, Коля, хто табе дапамагае вучыць дома ўрокі? У цябе цяпер значна лепшыя ацэнкі?

— Ніхто. Толькі цяпер у мяне больш часу.

— Чаму?

— Наш тэлевізар папсаваўся.



Валянціна Пчолка




Гарод у бабулі
Малы — дзве грады.
Растуць там
Цыбуля,
Укроп малады,
Гуркі,
Памідоры.
Гарох у разоры
Падкручвае вусы
І месца сабе
Не знаходзіць
Гарбуз.
Схаваўшы сцябло
У парэчак кусце,
За яблыньку ён
Зачапіўся,
Расце.
Даспеліць бабуля
Гарбуз на страсе
І кашы наварыць,
Каб елі усе.



ЗАМАЛЮЙ УСЕ ПАЛІ З КРОПКАМІ, ТАДЫ УБАЧЫШ, ШТО ТАБЕ АДКРЫЕЦЦА.



Адрас рэдакцыі: „Зорка" 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

## ЗАСТУПІЎСЯ

Аднойчы багаты і бедны паехалі на кірмаш купіць каня багацею. На рынку зайшлі ў шынок. Багаты купіў цэлы бусел гарэлкі. Напіліся да ачмурэння і пачалі скандаліць, біць вокны, посуд. Суседзі па сталу звязалі іх, пабілі, адабралі грошы і выкінулі на вуліцу.

Раніцай багаты пачаў прасіць беднага:

— Ты ж глядзі, жонцы не гавары. Калі што запытаецца, скажы: нічога такога не было.

— Добра, — згадзіўся бедны .

Калі вярнуліся дадому, жонка багацея пацікавілася, чаму ён каня не купіў.

Той і рот не паспеў раскрыць, як бедны заступіўся за яго:

— Марцечка, мы бусла гарэлкі не пілі, вокан у шынку не білі і посуд не таўклі, ды і грошай у нас не адбіралі, і з шынка ніхто нас не выкідаў...

Жонка багацея загаласіла і пачала малаціць мужа па свежых сіняках.

— Не разумею, як яна ўсё ведала, — наглядаючы за ёю, здзівіўся бядняк.

## ПАКАРАЎ

Аднойчы ноччу шэры Воўк
Лася дамоў сабе валок.
Яго Мядзведзь за карак — цап!
— З маіх не выкруцішся лап!..
Да Льва на суд Ваўка прывёў:
— Зарэзаў вось Лася ён зноў...
Воўк на калені ціха стаў,
Завыў жалобна, застагнаў:
— Суддзя, дальбог, прашу я вас,
Прабачце мне ў апошні раз.
З усмешкай з крэсла Леў устаў
І так разбойніку сказаў:
— Дарую. Тут Лася пакінь,
А сам з вачэй, нягоднік, згінь!

**Васіль Коцікаў**



# НІЎКА



## ДРАБНІЦА

— Мне б толькі ўступныя экзамены здаць, — уздыхнуў абітурыент.
— Потым засталася б самая драбніца — універсітэт закончыць.

## ЧЫЯ ЛЕПШАЯ

— Кастусь, у цябе жонка добрая?
— Толькі ўначы — як спіць.
— А мая заўсёды добрая, бо спіць і ўдзень, і ўначы.

## КАЛІ НАБЯРЭЦЦА РОЗУМУ

Сусед у суседа пытае:
— Ты чаму так рана свайго сына жэніш? Хай бы яшчэ трохі падрос, розуму набраўся.
— О-го-го, калі набярэцца розуму, тады яго не ажэніш.

## СМЯЯЦЦА НЕ БУДУЦЬ

Заказчык прыходзіць са сваім матэрыялам да краўца і просіць пашыць гарнітур:
— Пашыйце так, каб не смяяліся.
Кравец адказвае:
— Не хвалюйцеся, смяяцца не будуць. Я нядаўна аднаму пашыў, дык ён горкімі слязамі плакаў...

## СКУПЫ

Адзін скупы чалавек сабраўся ў далёкую дарогу.
— Калі ты паскупішся на паперы для пісьма, то прышлі канверт з маркай, а я тады буду ведаць, што ты жывы і здаровы, — сказала яму жонка.
— Навошта з маркай? — адказаў муж. — Я прышлю канверт без маркі, а ты адмовішся атрымаць яго. Як толькі пісьмо вернецца, я буду ведаць, што ты жывая і здаровая.



**Так шматзначна маўчаў, што ўрэшце прымусіў да сябе прыслухацца.**

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Размаўляюць два калгаснікі:
— Наш калгас займае апошняе месца ў раёне, а называецца „Перадавік". Мабыць, варта змяніць назву.
Тут падыйшоў Кіндзюліс і сказаў:
— Не трэба, дык назва і так пішацца ў двукоссі.

*

— Чалавеку хутка спатрэбіцца толькі тры гадзіны, каб зрабіць кругасветнае падарожжа, — панура заявіў жонцы Томас, які вярнуўся з камандзіроўкі. — Гадзіну, каб аблёт планеты і дзве, каб дабрацца з аэрапорту дадому.

*

Жабрак спіць на лаўцы ў Люксембургскім садзе ў Парыжы. У дзесяць гадзін вечара яго будзіць вартаўнік:
— Уставайце, мсье, ужо збіраюцца зачыняць вароты.
— Дзякуй, што папярэдзілі, дзед, скажыце ім, хай зачыняюць, ды толькі ціхэй, у мяне вельмі чуткі сон.



— Вадаправодчыка выпадкова не выклікалі?

## З „Весніка Задрыпоніі"

## СУСТРЭЧА

Нядаўна адбылася сустрэча пісьменнікаў горада Ачуціна-ва са сваім чытачом. Перапоўненая зала цёпла вітала чытача Дубалобскага, які падняўся на сцэну.

## ДЭВІЗ ДАЛАРКЕВІЧА

Чаго нельга купіць за грошы, можна купіць за вялікія грошы.



## ЗМЕНЛІВАЯ СУСЕДКА

Лявон нядаўна ажаніўся,
Яму аж свет пераменіўся;
Цвітуць вакол, здаецца, ружы,
Сваю кахае жонку дужа.

Праз год радзіўся і сыночак —
— Увесь, як бацька, з ног
да вочак, —
Казала, песцячы, суседка:
— Няхай квітнее ружай-кветкай!

Ды вось змянілася ўсё гэта,
Прапала дабрата ў кабеты,
Другое языком малола
І на бацькоў, і на малога:

— Лявону сын зусім не родны!
На чорта лысага падобны!..
Чаму, навошта набрахала?
Бо на Лявоніху ўзлавала.

**Захар Бірала**

З суседскага агародчыка.





# Курёзы

## СТАЯЧЫ РЭКОРД

На віндсейферы ўжо перасякалі Атлантыку, рабілі доўгія падарожжы па бурлівых морах і праліваx. Француз Марка Топдэмір вырашыў паставіць свой рэкорд, не надта, аднак, рызыкуючы. Вышаўшы на дошцы з парусам у ціхую затоку, ён нязменна прастаяў на ёй 87 гадзін 53 мінуты.



## АБ'ЯВА

„З жалем паведамляем, што д-р Макхю пакінуў гэты свет. Зрэшты, асаблівых прычын хваляваццa няма: менавіта ў гэты час ён усё роўна выязджаў у адпачынак".

Газета „Айлс-стар".

# Смяюцца з намі

**Больш за ўсіх хлусяць тыя, хто лепш за ўсіх ведае праўду.**

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020